# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 19 (532) Год XI 8 МАЯ 1966 г. Цана 60 гр.


## У прэзідыум ГП БГКТ

26 красавіка г. г. адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. На ім сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк склаў справаздачу з працы БГКТ у першым квартале г. г. Апрача гэтага Прэзідыум абмеркаваў мерапрыемствы Таварыства звязаныя са святкаваннем Тысячагоддзя Польскай дзяржавы, падрыхтоўку экскурсіі актывістаў БГКТ у БССР і кадравыя справы.

## МЫ НЕ ЗАБУДЗЕМ

Старэнькая бабуля прыпала да магілы і голасам страшным закрычала:

— Сыночак ты мой, саколік родны! Побач яе граблі рукамі пясок другія жанчыны. Іх лямант скрыгатаў па сэрцы, як жалезам па шкле. Навокал стаялі людзі акамянелыя ад болю, спачування і злосці. 20-цігадовыя дрэвы спакойна шалясцелі зялёным лісцем. Адбывалася чарговая жалобная ўрачыстасць прысвечаная памяці зверскі памардаваных райшчан.

Адчаяны плач старэнькай бабулі, лямант аўдавеўшай жанчыны і маўклівы боль на твары асірацелай маладзіцы... усё гэта прыпомніў я седзячы ў выгодным крэсле ў прасторнай канферэнцыйнай зале ваяводскай рады ў Беластоку. Праходзіла пленарнае супольнае пасяджэнне Ваяводскага грамадзянскага камітэта аховы помнікаў барацьбы і пакутніцтва польскага народа і Акруговага Праўлення Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю (ЗБОВіД). Урачыстасць была наладжана з нагоды «Месяца памяці» аб'яўленага ў сувязі з «Тыднем міжнароднай салідарнасці барацьбітоў руху супраціўлення».

Райск не быў адзін. Вось што, між іншым, гаворыцца ў адозве, якую прысутныя прынялі аднагалосна:

«...беластоцкая зямля — якая паводле гітлераўскіх варвараў мела быць пераўтворана ў дрымучую пушчу — мае запісаныя ў гісторыі II сусветнай вайны таксама свае балючыя і геройскія старонкі. Трыста дваццаць тысяч забітых, дваццаць чатыры тысячы замучаных у лагерах смерці, 196 спаленых вёсак, жыхары якіх былі або часткова або зусім расстрэлены. Вось статыстычны скандэнсаваны, але як жа яркі вобраз таго, што пакінулі нам гітлераўскія забойцы...»

Лічбы... Ці можна лічбамі мерыць чалавечае няшчасце? Кожная ж лічба сярод гэтых 320 000 назначана крывёю і плачам, плачам, які часта не заціхае па сённяшні дзень... як там — у Райску.

А ўсё ж лічбы атакуюць вушы і ціснуцца пад пяро. Вось зусім нядаўна, летам мінулага года, у час гарцэрскай акцыі пад назвай «Алерт», школьнікі выявілі 228 дагэтуль няведаных месц больш або менш масавых расстрэлаў жыхараў Беласточчыны, а пад горадам Сувалкі адкрыта братнія магілы — равы, у якіх далічыліся каля 12-ці тысяч замучаных ваеннапалонных розных нацыянальнасцей.

Гэты год з'яўляецца апошнім годам у шматгадовай акцыі выяўлення і забяспечвання густа па нашай зямлі рассеяных магіл партызан, салдат і звычайных сялян, якія палі ад куль ворага. Дагэтуль устаноўлена 434 месцы гітлераўскага варварства ў межах цяперашняга Беластоцкага ваяводства. 186 сярод іх адзначана ўжо помнікамі або прынамсі мемарыяльнымі дошкамі. Прадбачваецца пабудаваць яшчэ ў бліжэйшым часе 68 помнікаў.

Шмат чаго добрага могуць, калі захочуць, зрабіць самі жыхары гэтых мясцовасцей, у якіх знаходзяцца магілы. Аўтары адозвы, аб якой мы ўжо ўспаміналі, між іншым і да іх звяртаюцца, калі гавораць:

«...на працягу цэлага года — і заўсёды — не пакінем без апекі аніводнага месца, на якое пала кроў забітых, аніводнай магілы партызанскай або салдацкай. Гэтым мы акажам сваю пашану тым усім, хто сваім чынам і смерцю дапісаў

(Працяг на стар. 5)



Фрагмент помніка на брацкай магіле памардаваных жыхараў Райска.
Фота Ул. Паўлючук

У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ

## Геройства здарэнняў і... людзей

Паўлы ўжо слаўныя. Слаўныя сваёй ініцыятывай, грамадскай і культурнай дзейнасцю (гурткі — драматычны, любіцеляў тэатра, экскурсіі, рознае навучанне, грамадскія чыны і т. п.), сваімі неспакойнымі ў пошуках усё новага, людзьмі. Гэтай славы, як на адну нават не цэнтральна распаложаную вёску, можа замнога.

Штопраўда, самы Паўлы не скупяць сваіх людзей. У суседніх Рыбалах, — сядзібе ГРН — сам старшыня зПаўлаў, бібліятэкар з Паўлаў.

Тэатральны беларускі гурток у Паўлах працуе многа год і паставіў многа п'ес. Гурткі такія, як гурткі, родзяцца і паміраюць, як хоць бы ва ўспомненых Рыбалах. У Паўлах гурток жыве, узлятае высока. Жыццё неспакойнае яму ў смак. У гэтым жыцці здабывае навуку, якой нельга здабыць аднаразова пастаўленай п'ескай.

У ліку тэатральных гурткоў беларускіх вёсак, паўлаўскі не мае сабе роўнага. Ён свае п'есы іграе ўжо са знаўствам, з запасам найважнейшых ведаў аб сцэне. Паўлаўскія самадзейныя акцёры дакладныя ў дробязях, у рухах рук, пavароце галавы, сяданні і ўставанні. Умеюць нарысаваць добра постаць, якую на сцэне іграюць.

Бесканкурэнцыйны ў гэтым у апошняй п'есе «Валодзін гальштук» быў Сяргей Філіпюк, доўгія гады галоўны праваднік культурнага жыцця Паўлаў. Ён іграў гітлераўскага капітана, які заляцаецца да беларускай жанчыны, употай партызанскага супрацоўніка. Ролю яе іграла Раіса Снарская.

(Працяг на стар. 5)

АРКАДЗЬ КУЛЯШОЎ

## ПРА АСІНЫ

*Развесіўшы з самай зары на вятры*
*Сушыць павучыныя сеці,*
*Аблытала бабіна лета бары*
*Маной аб нягаснучым леце.*

*Аблытала бот, што зарос бур'яном,*
*Бліндаж, што не вытрымаў буры,*
*Асіны, што лісцяў гарачым агнём*
*Закрылі агонь амбразуры.*

*Асіны, асіны! Між цёмных ялін*
*З нізін прабіваюцца ўгору*
*Іх яркія вогнішчы!.. Хто на ўспамін*
*Пакінуў іх змрочнаму бору?*

*Хто іх запаліў тут? Бязлітасны шквал*
*Пякельнае артпадрыхтоўкі?*
*А можа пяхоты апошні прывал,*
*Каманд пахавальных рыдлёўкі?*

*«Хіба ўжо, — трывожыцца полымя іх, —*
*Не кружыцца смерць над дамамі,*
*Братэрства і згода пакуты жывых*
*З калючых дратоў паздымалі?..»*

*Глытаючы вецер акопны і пыл,*
*Суровымі сведкамі часу,*
*Яны — нібы ўдовы на варце магіл —*
*Застылі ў чаканні адказу.*

*Як камень халодны нямых курганоў,*
*Гняце іх цяжкое чаканне.*
*І полымем вечным жалобных кастроў*
*Над светам палае пытанне.*

## СУСТРЭЧА З ВІЦЭ-МІНІСТРАМ ЗЫГФРЫДАМ ШНЭКАМ

18 красавіка г.г.старшыня ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі і сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк сустрэліся з віцэ-міністрам Міністэрства ўнутраных спраў Зыгфрыдам Шнэкам. На сустрэчы абмяркоўвалася праца нашага таварыства пасля V з'езда БГКТ.

## СВЕТ

### ГАСПАДАРСКАЕ ВОКА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

**Нядаўна пабываў у Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы Максім РУДЧЫК, пасол у Сейм і старшыня прадукцыйнай спулдзельні ў Вольцы Нурэцкай, Сямяціцкага павета.**

**Шмат цікавага расказаў мне ён.**

**Сельская гаспадарка ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы поўнасцю калектывізаваная. Калі ехаць з Берліна ў кірунку на Гале і Лейпцыг, паабапал шашы відаць зграбныя будынкі невялікіх нямецкіх вёсак — і машыны на палях. У Нямеччыне была ранняя вясна, на палях працавалі машыны растрасаючыя гной. Дарэчы заўважыць, што нямецкая сельская гаспадарка моцна механізаваная, амаль усё тут робіцца машынамі. Аблагоў няма, кожная лапіна зямлі выкарыстана.**

**Прывычным вокам селяніна прыглядаўся я да зямлі. Якая яна? Такая, як і ў нас — гледзячы на палеткі, на жаўцізны пагоркаў і рэдкалессе, прыпаміналіся мне вольскія палеткі. Нямецкія такія самыя — як бы неўраджайныя. Такія самыя і не такія самыя, ёсць вялікая розніца: палі тут ляпей задбаныя, зямля добра выробленая і, так сказаць, гладка заараная. Трактарысты з Гале аруць дбайна, старанліва канчаюць ворыва, не чаўпуць ямаў - равоў каля дарог ці агрэхаў - лапін пасярод поля. Дагледжаная, выробленая, хаця і небагатая нямецкая зямля дае высокі ўраджай — амаль удвая большы, чым наша зямля, якая не горшая.**

**Сярэдні ўраджай каля 27 цэнтнераў (метраў) збожжа з аднаго гектара, а некаторыя нямецкія гаспадаркі (спулдзельні) дасягнулі нават 39 цэнтнераў ураджаю збожжа з аднаго гектара. Гэтыя даныя моцна павучальныя.**

**Яшчэ адно кідаецца ў вочы ў нямецкіх гаспадарках: чысціня, непрывычная чысціня ўсюды. Тамтэйшым гаспадарам не месціцца ў галаве, што панадворак можа быць затрушаны саломаю і ніколі не замецены, неабгароджаны — або развалёная агароджа. А машыны пад голым небам? Гэта бывае толькі ў нас... Я сам стары, жыву ў вёсцы і звыкся з тым, што ў нашай вёсцы штораз менш моладзі. У нямецкіх вёсках як бы наадварот: бачыў толькі раз старога, быў гэта нейкі сторож. Усюды працуюць маладыя або дарослыя. Старыя адпачываюць — як кажуць у нас, адпачываюць на рэнце (маюць пенсію). Кіраўнікі гаспадарак маладыя людзі з вышэйшай адукацыяй, пераважна, інжынеры сельскай гаспадаркі. Нямецкая сельскагаспадарчая палітыка моцна значыць у агульнай палітыцы дзяржавы, кіраўнічыя кадры ў сельскай гаспадарцы на высокім узроўні, з вышэйшай — не сярэдняй — адукацыяй. Ёсць і ў нас інжынеры — аграномы, але не спаткаеш іх у вёсцы, у спулдзельнях прадукцыйных...**

**Не той народ цяперашнія немцы ў Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы. Іх непасрэднасць, сімпатычнасць здзіўляе — і радуе сэрца. Вядуць сябе свабодна, без штучнай ветлівасці — словам, адкрытыя людзі. Працавітыя, незайздросныя, простыя. У гэтай іх шчырай прастаце нешта элегантнае, годнае.**

**Бачыў я нямецкую вёску ў святочны дзень. Немцы не маюць дурных густаў**

**(Працяг на стар. 7)**

## БССР

### МАЯ ЗАГРАНІЦА (7)
### У СЭРЦЫ СЛАВЯНСКАЙ ШВЕЙЦАРЫІ

**Самалёт з Гродна, якім я прыляцеў у Мінск, сталіцу Беларусі, мякка падруліў да будынка аэрапорта. Навокал рой самалётаў — пасажырскіх, жыватастых, бы трутні. Гудзе людская гутарка. Выезд у горад ашаламляе, рух на вуліцах падобны да мільённага горада. Ля тратуараў плакатныя стэнды, на іх мноства плакатаў, пераважна, рускіх — часамі беларускіх, а нават украінскіх (пра падпіску на кніжкі І. Франко).**

**Беларусь — шматмоўная, абавязваюць тут дзве мовы: руская і беларуская. Пішы і гавары, як хочаш — як лягчэй табе. Словам, Беларусь з'яўляецца як бы славянскай Швейцарыяй, Мінск — яе сэрцам — дзе ўшануюць цябе і зразумеюць усё роўна на якой мове: — рускай, беларускай, украінскай ці польскай. У кіёсках Мінска польскія газеты; свежыя варшаўскія газеты ў Мінску чытаюць у той жа дзень, што і ў Беластоку. Асабліва папулярныя тут: «Жыцце Варшавы», «Палітыка», «Пшыяцюлка» — зрэшты гэтак сама, як і ў нас.**

**Ва ўсім гэтым хіба нейкая гістарычная правідловасць: беларус заўсёды разумеў і ведаў некалькі моваў. Так як мае сваякі ў Гродна, якія настаўляюць свой тэлевізар і на Мінск, і на Маскву, і на Кіеў, і на Вільнюс, і на Варшаву.**

**Не першы раз я ў Беларусі, пабываў у розных гарадах і асяроддзях — сялянскім, рабочым, інтэлігенцкім. І зацікавіў мяне адзін феномен беларускага жыцця, а менавіта: нацыянальная эканоміка (адміністрацыя), палітыка, тэхніка, навука, культура, урэшце і беларуская нацыянальная свядомасць выказваюцца на рускай мове. Можна дадаць слова «пераважна», калі гаварыць аб культуры або сялянскім асяроддзі. А феноменам гэтым з'яўляецца нацыянальная літаратура, якая амаль выключна існуе, развіваецца на беларускай мове. На рускай мове няма ў ёй фундаментальных, фасцынуючых рэчаў — і бліжэйшая будучыня не паказвае на змену гэтых моўных прапорцый. (Вядома, маю тут на ўвазе арыгінальную творчасць, а не перакладчыцкую).**

**Услухоўваюся ў размову майго сталічнага знаёмага, які з'яўляецца выдатнай асабістасцю інтэлектуальнага Мінска. Гаворыць ён з некім па тэлефону, расказвае свае ўражанні аб новай паэме. Дагадваюся — і так аказалася — што гаворыць ён з аўтарам паэмы. Па-беларуску гаворыць толькі тады, калі цытуе з памяці ўрыўкі паэмы, якімі ён захапіўся — у яго хатняй бібліятэцы цэлая гара беларускай літаратуры. Чытае — і сам піша па-беларуску. Піша надзвычайна, цікава.**

**Назаўтра наведаў я знаёмага слёсара. Ён беларус, сям'я беларуская — вельмі быў здзіўлены маёй няўпэўненасцю ў яго беларускай нацыянальнасці. Размова па-руску. Жонка забаўляе сыночка, чытае яму байку на беларускай мове. Чаму? Бо цікавая. Ці зразумее? У вачах майго знаёмага адбілася яшчэ большае здзіўленне, быццам запытаў яго, ці жывы ён? (!)...**

**Відаць, справа не ў падабенстве беларускай мовы да рускай, а ў шматмоўнасці самой Беларусі. Фактычнай і**

**(Працяг на стар. 5)**

## ПОЛЬШЧА

### VI ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

- **Разважнейшае праграмаванне**
- **Спраўнейшае планаванне**
- **Дбайнейшае выконванне**

Так можна было б акрэсліць найважнейшыя элементы пастановы, якую пасля двухдзённай працы прыняў VI Пленум Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Пленум сканцэнтраваў сваю ўвагу на справах у развіцці нашай краіны, бадай што, найважнейшых. Заняўся ён праблемамі **капіталаўкладання.** Усё тое, што мы пабудавалі на працягу мінулага 20-цігоддзя, каштавала нас 1 424 000 000 000 **(тысяча чатырыста дваццаць чатыры мільярды)** злотых. Цяжка проста ўявіць веліч гэтай сумы. На яе складаецца шматгадовая цяжкая праца цэлага народа.

Многа аднак можна было б зрабіць спраўней і лепш. Пацвярджае гэта хаця б вопыт апошніх гадоў. Вось у гадах 1963—1965 аддалі мы на новае будаўніцтва ўсе запланаваныя грошы, **але дзяржава атрымала ў замен ледзь 88 працэнтаў новых аб'ектаў, якія мелі быць пабудаваны на гэтыя грошы.** Кожны хацеў, каб толькі «зачапіцца» за план, а далей неяк будзе. Распачатай будовы спыніць нельга. З падобнымі практыкаваннямі Пленум рашыў пакончыць.

Эканамісты падлічылі, што ў цяперашняй пяцігодцы (1966—1970 г. г.) на новыя капіталаўкладанні мы зможам адвесці 840 мільярдаў злотых — на 37,6% больш чымсьці маглі мы выдаць у папярэдняй пяцігодцы. Сума агромная, але пашырыць яе ані на адзін мільён злотых няма ніякіх магчымасцей. Таму гаспадарыць трэба разважліва. Найбольш грошай прызначаецца на сельскую гаспадарку, хімічную і машынабудаўнічую прамысловасці і на разбудову базы дабычы сыравіны. Таму неабходна канцэнтраваць увагу, калі разыходзіцца пра прамысловасць, **не на пабудове новых камбінатаў, а на паўнейшым выкарыстанні вытворчых магчымасцей ужо існуючых прадпрыемстваў,** на дасканаленні тэхналогіі і спосабу прадукцыі, на аднаўленні ўстарэлага абсталявання, машын і станкоў. Увясці, скажам, новую змену заўсёды лягчэй, чымсьці пабудаваць новы завод. А ў нас многія прадпрыемствы працуюць толькі на адну змену. У цукроўнях, ПОМ-ах, у спажывецкай прамысловасці працуюць сезонна. Невялікім коштам можна гэтыя прадпрыемствы прыстасаваць так, каб у той час, калі няма асноўнай прадукцыі, **рабіць што другое** — скажам у ПОМ-е заменныя часткі да сельскагаспадарчых машын, якіх заўсёды не хапае. На разбудову і аднаўленне заводаў прызначаецца не менш 60% усіх сродкаў адведзеных на прамысловасць.

Але найважнейшая справа — гэта час будовы. Нельга расцягваць яго як рызіну. А бывае так вельмі часта. Першынство прызначаецца гэтым галінам прамысловасці, развіццё якіх дае найлепшыя эканамічныя эфекты і адначасова садзейнічае спраўнейшаму развіццю многіх другіх прадпрыемстваў і прамысловых аб'яднанняў.

## ВАЯВОДСТВА



### ПЕРШАМАЙ

**У БЕЛАСТОКУ**

Урачыста і радасна святкавалі Першамай жыхары Беласточчыны. У Беластоку ганаровая трыбуна была ўстаноўлена на вуліцы М. К. Складоўскай, дзе стройныя нядаўна пабудаваныя гмахі патаналі ў транспарантах і чырвоных і бела-чырвоных сцягах. Побач прадстаўнікоў грамадства Беласточчыны, на трыбуне месца занялі: сакратар ЦК ПАРП Уладзіслаў Віха і міністр здароўя др Ежы Штахэльскі (на здымку). Сапраўды ўрачысты быў паход. Ішлі рабочыя і вучоныя, старыя і школьнікі, ішлі некалькі гадзін. А напярэдадні Першамая ў час урачыстага пасяджэння, якое адбылося ў тэатры, многім жыхарам Беластока былі ўручаны высокія дзяржаўныя ордэны. Між іншым Кавалерскі Крыж Ордэна Адраджэння Польшчы атрымаў вядомы педагог і грамадскі дзеяч Ян Радзюкевіч.

**У ГАЙНАЎЦЫ...**

...людзі найперш сабраліся на стадыёне «Пушча». Тут з прамовай выступіў сакратар ПК ПАРП М. Недзведзь. Затым вуліцамі Варынскага, Бучка, 1-га Мая і Вызвалення прайшоў урачысты паход. У Гайнаўку святкаваць Першамай прыехала многа сялян з навакольных вёсак.

**У БЕЛЬСКУ...**

...першамайскія сходы адбыліся ва ўсіх прадпрыемствах, школах і ГРН. Павятовы мітынг адбыўся ў Бельску. Яшчэ горад не аглядаў такой колькасці людзей (каля 20-ці тысяч) і не прыймаў так урачыста ўдзельнікаў паходу. Найбольш цікава і арыгінальна ў паходзе выглядалі школьнікі і гарцэры. Пасля абеда выступалі калектывы мастацкай самадзейнасці. На здымку: Гарцэры з Райска на мітынгу ў Бельску. (ак)

Фота: З. Зарэмба, А. Карпюк



## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

NIEDZIELA 8. V.

8.10 Program dnia; 8.15 „Bonanza" — film; 9.05 „Bangkok" — film („Geografia rozrywki"); 9.40 „W starym kinie"; 10.40 PKF; 10.50 Transmisja Telewizyjna; 14.00 „Kronika Sułowa" „Ludzie i zdarzenia" — rep. film; 14.15 „Swiat, obyczaje, polityka"; 14.30 Sprawozdanie sportowe (Kraków); ok. 15.15 „Jedziemy na łów; 16.15 „Koń, który mówi" — film; 16.40 „Wielka gra" — teleturniej; 17.30 „Śpiewki stare, ale jare" — program rozrywkowy; 18.10 Teatr TV: „Żołnierze" Ernesta Brylla. Wykonawcy: D. Damięcki, J. Nalberczak, M. Opania, J. Turek, Z. Zapasiewicz; 19.00 „Słownik wyrazów obcych"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.10 „Towarzysz Regent" — film fab. CSRS; 21.40 „Śpiewa Andrzej Szajewski"; 21.55 „Niedziela sportowa".

PONIEDZIAŁEK 9. V.

16.20 Program dnia; 16.25 Dla dzieci: „Poly i tajemnica siedmiu gwiazd" — film; 16.40 Dla młodych widzów: „Gol" odc. I; 16.55 Wiad. dz. TV; 17.00 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia I etapu (117 km) dookoła Pragi (Praha); 18.30 Informator handlowy; 18.40 „Eureka"; 19.10 — film; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 Teatr TV: „Pożegnanie z Marią" Tadeusza Borowskiego. Wykonawcy: I. Kamińska, T. Łomnicki, J. Świderski oraz K. Borowicz, J. Ciemniewska, B. Klimkiewicz, B. Sołtysik, H. Wilda, E. Wiśniewska, W. Duryasz, M. Kociniak, J. Matyjaszkiewicz, R. Ostałowski, L. Pietraszkiewicz, M. Stoor, St. Środka, Z. Zapasiewicz. 21.10 „Kino Krótkich Filmów"; 21.50 „Na półkach księgarskich"; 22.00 Dz. tel.; 22.10 15 lekcja jęz. ang.

WTOREK 10. V.

10.00 „Grzesznicy bez winy" — film fab. radz.; 11.35 Przerwa; 14.55 Program dnia; 15.00 Dla dzieci: „Zręczne ręce" widowisko lalkowe (Moskwa); 15.30 „Cud mojego dzieciństwa" — film radz; 15.45 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Fizyka (Prawa prądu elektrycznego stałego) Wykładowca: doc. R. Sosnowski (Gdańsk); 16.15 Dla dzieci: Kino Ptyś — „Jak to ze lnem było"; 16.35 Wiad. dz. TV; 16.45 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia II etapu (130 km) Praha — Liberec (Liberec); 17.45 „Spotkania z przyroda"; 18.10 „Od nitki do kłębka" czyli od „C" do „A"... — program publ; 18.35 „21" — teleturniej; 19.05 „Gawędy wilków morskich"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel. 20.00 „Polowanie na gwiazdy" — film radz.; 20.25 „Z kart historii" — przed kamerą prof. K. Grzybowski; 20.45 „Nazajutrz po wojnie" — film TV pol. („Dzień ostatni, dzień pierwszy); 21.15 „Bez apelacji" cz. I; 22.05 Dz. tel. 22.15 Politechnika TV Kurs Przygotowawczy. Fizyka (Prawa prądu elektrycznego stałego) Wykładowca: doc. R. Sosnowski (Gdańsk); 22.45 16 lekcja jęz. franc.

ŚRODA 11. V.

9.55 Dla szkół: (kl. VI) Fizyka — „Źródła ciepła"; 10.30 „Epitafium dla bohatera" — film („Baron"); 11.20 Przerwa; 16.10 Program dnia; 16.15 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka (Rozwiązywanie trójkątów, twierdzenie sinusów i cosinusów). Wykładowca: doc. dr R. Leitner (Wrocław); 16.45 Wiad. dz. TV; 16.50 Mała Scena Teatru Młodego Widza: Janusz Domagalik — „Zginął zeszyt"; 17.15 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia III etapu. Liberec — Harrachov (17 km) oraz Harrachov — Hradec Kralowe (108 km) (Hradec Kralove); 18.15 Tygodnik wiejski: „Zielone perspektywy"; 18.40 Wszechnica TV: „Biochemia — nauka o życiu". W programie wystąpią — prof. dr W. Gajewski. prof. dr J. Heller. prof. dr Wł. Niemierko, prof. dr K. Zakrzewski oraz red. I. Waniewicz; 19.15 Dobranoc; 19.25 Finał Pucharu Klubowych Mistrzów Europy w piłce nożnej (Bruksela) w przerwie ok. 20.15 Dziennik telewizyjny; 21.15 Dz. tel.; 21.45 „Epitafium dla bohatera" — film („Baron"); 22.35 Politechnika TV. Kurs Przygotowawczy. Matematyka (Rozwiązywanie trójkątów, twierdzenie sinusów i cosinusów). Wykładowca: doc. dr R. Leitner (Wrocław); 23.05 16 lekcja języka rosyjskiego;

CZWARTEK. 12.V.

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Historia — „Wielki Proletariat i jego przywódcy"; 10.25 Przerwa; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII — XI) Język polski — „Forma i piękno" („W obliczu XX wieku); 11.25 Przerwa; 15.30 Program dnia; 15.35 16 lekcja jęz. franc. powt. 15.55 TV Kurs Rolniczy: „Niektóre zagadnienia nawożenia roślin pastewnych"; 16.45 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia IV etapu (147 km) Hradec — Kralove — Brno (Brno); 17.45 Wiad. dz. TV; 17.50 Dla młodych widzów: „Klub pod Smokiem" — „W barbakanie" (Kraków); 18.20 „Nie tylko dla pań" — mag.; 18.40 Informator handlowy; 18.50 „Czwarta zmiana"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 „Przegląd muzyczny"; 20.30 „Dobry wieczór — jak minął dzień"; 21.00 Teatr Sensacji: „Przyznaję się do winy" cz. I. Wykonawcy: w roli głównej — J. Bukowski oraz M. Kiernikówna, L. Suchecka, I. Szczurowska, A. Zawieruszanka, T. Białoszczyński, E. Karewicz, Cz. Wołłejko, S. Baczyński, J. Kaczmarek, K. Kowalewski. J. Kozak, R. Kubiak, Z. Maklakiewicz, J. Paluszkiewicz, W. Szklarski, J. Turek. 22.00 Dz. tel.; 22.10 „Z drugiej strony szklanego ekranu" — Skrzynka ZURT-u;

PIĄTEK, 13.V.

12.45 Dla szkół: (kl. I) „Na drogach i szosach"; 13.00 Przerwa; 16.05 Program dnia; 16.10 15 lekcja jęz. ang. powt.; 16.40 Wiad. dz. TV; 16.45 XIX Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z zakończenia V etapu (136 km) Brno — Otrovice (Otrovice); 17.45 Dla dzieci: „Czarodziejski dywan"; 18.05 „Azymut" — wojskowy magazyn młodzieżowy; 18.30 „Wielokropek"; 18.50 „Opowieści z myszką"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. tel.; 20.00 „Włocławek" — („Z kamerą po kraju"); 20.15 Teatr TV: „Błękitny patrol" Willisa Hall'a. Wykonawcy: L. Niemczyk, Cz. Przybyła, A. Fogiel, J. Kubicki, R. Sobolewski, T. Sabara, M. Szewczyk, B. Sobiesiak; 21.30 „10 minut recenzji"; 21.40 Dz. tel.; 21.50

SOBOTA, 14.V.

„Miejsce kultury polskiej" cz. III;

10.00 „Sprawa porucznika Rougera" — film fab. NRF; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Geografia — „Kraje Bliskiego Wschodu"; 12.25 Przerwa; 14.40 Program dnia; 14.45 „Sąd nad kotem Mruczkiem" — film fab. jug.; 15.50 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.05 16 lekcja jęz. ros. (powt.); 16.25 Program tygodnia; 16.40 Wiad. dz. TV; 16.45 Dla młodych widzów: „Wodewil uczniowski"; 17.15 „Po szóstej" — Młodzieżowy Klub TV; 17.55 „Warszawa, ja i Ty"; 18.20 Sprawozdanie z międzypaństwowego meczu gimnastycznego kobiet Polska — NRD; 19.05 „Kąkole" — rep. film.; 19.20 Dobranoc; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Wszędzie dobrze, ale w domu najlepiej" — program rozrywkowy (zespół PAGART) — (Katowice); 21.20 Dz. tel.; 21.35 Wiadomości sportowe; 21.45 „Sprawa porucznika Rougera" — film fab. NRF; 23.10 „Cztery, pięć, sześć" — filmowy program rozrywkowy (Szwecja).

 

**Наша акцыя** | **Крыптанім „В“**

# Трасцянка

### ТРАСЦЯНКА Ў XVI СТАГОДДЗІ

Калі паўстала Трасцянка, дакладна невядома. Вядома толькі, што існавала яна ўжо ў XVI стагоддзі. Ды не толькі існавала. У Трасцянцы, ці як тады яе называлі Трасчанічы, існавала сядзіба «вуйтоўства», у склад якога ўваходзілі апрача Трасцянкі Сацы і Бялкі.

У 1576 годзе ў Трасцянку прыбылі каралеўскія ўраднікі і даканалі так званай «люстрацыі». Нататкі гэтай люстрацыі пачынаюцца ад слоў: «W tym siele włók 74 gruntu podłego, z których na wójta włók 2 wolnych».

Далей у нататках люстрацыі пералічваецца павіннасці сялян: мелі яны менавіта аддаваць згодна з гэтым дакументам з кожнай «влукі» па адной бочцы аўса, па адным возе сена і па 6 грошы тзв. «млыновага».

### ТРАСЦЯНІЦКІЯ ДЗЯЎЧАТЫ

Трасцяніцкія дзяўчаты захацелі паказаць, што яны не менш дзелавыя ад хлопцаў. На Вялікдзень сарганізавалі яны для ўсяе моладзі двухдзённую танцавальную забаву. Трэба сказаць, што арганізацыя забавы была сапраўды больш спраўнай ад тых, якія арганізуюць трасцяніцкія хлопцы.

### З ТРАСЦЯНКІ Ў КАРЭЮ

У Карэю трапіў з Трасцянкі Анатоль Тайгуноў, які працуе там у польскім пасольстве. Іншыя трасцяне малодшага пакалення рассяяліся па ўсёй Польшчы; займаюць яны часта адказныя пасты як: інжынеры, лекары, спецыялісты розных галін жыцця.

### ПАД III З'ЕЗД ЗМВ

У Трасцянцы, як і ў шмат іншых вёсак, існуе гурток Саюза вясковай моладзі (ЗМВ). Налічвае ён 42 асобы і вылзяляецца ў Гайнаўскім павеце актыўнай культурна - асветнай дзейнасцю, удзелам у працах грамадскім чынам, рэгулярным аплочваннем складчын. Нічога тады дзіўнага, што старшыня гуртка ЗМВ, Валя Стахіюк выбрана была дэлегатам на III Краёвы з'езд ЗМВ. Моладзь жа гуртка пастанавіла ў гонар з'езда сваёй арганізацыі сарганізаваць мастацкі аматарскі калектыў. І сарганізавала. Дапамог у гэтым моладзі настаўнік трасцяніцкай школы — Сцяпан Копа. Першае выступленне новасарганізаваных гурток даў у Трасцянцы 10 красавіка, а другое — 17 красавіка ў Крыўцы.

### СТАВОК

У адлегласці няцэлага кіламетра ад Трасцянкі па дарозе ў Пухлы знаходзіцца ўрочышча Ставок. Зараз жыве тут і гаспадарыць селянін Мікалай Мінько. Сям'я Міняькоў паявілася ў Стаўку параўнальна нядаўна — у міжваенным перыядзе. У гэты менавіта час бацька Мікалая Мінько родам з Ласінкі купіў Ставок ад польскага асадніка, нейкага Снеткі, які атрымаў яго ад улад дарэмна за вайсковую службу ў Пілсудскага.

У царскія часы, перад І сусветнай вайною, Ставок быў уласнасцю настаўніцкай школы, якая тут існавала, а яшчэ раней — уласнасцю Пухлаўскага царкоўнага прыхода, у склад якога ўваходзіла тады і Трасцянка. Пухлаўскі прыход меў шчасце на даволі ініцыятыўных і талковых светароў. Ужо ў 1860 годзе існуюць у гэтым прыходзе тры царкоўна - прыхадскія школы: у Сацах, Давідавічах і ў Стаўку. Школы гэтыя, а асабліва школа ў Стаўку, перахрывалі непрыхільныя для царкоўна-прыхадской асветы часы і існавалі аж да канца мінулага стагоддзя.

21 лістапада 1887 года наступіла ў Трасцяніцкім урочышчы Стаўку ўрачыстае адкрыццё т. зв. «Кірыло - Мефодіевской обрасцовой, четырохкласной, с учытельскім курсом, ремесленным класом школы».

Адкрыццё настаўніцкай школы ў Стаўку абумоўлена было доўгімі асветнымі традыцыямі ў гэтым прыходзе. Адкрыла яно многім сялянскім дзецям дарогу да асветы, а часам і да пэўнага грамадскага авансу.

Школа ў Стаўку ў 1907 годзе была спаленай. Зласлівыя цвердзяць, што спалілі яе настаўнікі, якім не надта хацелася працаваць на забітай глухой вёсцы. Пасля адбудовы існавала тут толькі двукласная прыхадская школа. Пасля І сусветнай вайны і тэты школьны будынак быў разабраны сялянамі і выкарыстаны на пабудову жылых дамоў, а зямля аддадзена ўспамянутаму польскаму асадніку.


Новы будынак трасцяніцкай школы робіцца штораз цяснейшым.


Старшыня трасцяніцкага гуртка ЗМВ — Валя Стахіюк.


Андрэй Сяргеюк, настаўнік - пенсіянер, адзін з выпускнікоў настаўніцкай школы ў Стаўку.


Трасцяніцкія жанчыны, як і жанчыны на ўсім свеце, любяць моднічаць, асабліва ў нядзелю.


Студэнткі беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта на вуліцы Трасцянкі.

### САМАСУД

Пажар быў адным з найстрашнейшых няшчасцяў у старой беларускай вёсцы. — вёсцы саламянай, цесна забудаванай, без пажарніцкіх каманд і якога-небудзь страхавання. Таму падпальшчык лічыўся найбольшым злачынцам. Старое няпісанае права гаварыла, што падпальшчыка трэба было ў час пажару схапіць і ўкінуць у агонь. За гэта не было ні граху, ні пакарання.

Гэтае страшнае народнае права прымянена было ў Трасцянцы апошні раз недзе ў 1906 годзе. Было гэта так: Некалькі падпітых мужчын вярталася з прыхадскога фесту ў Нарве (т. зв. Казанская). Па дарозе пасварыліся, ды пабіліся. Адзін з найбольш пакрыўджаных у бойцы Сцяпан Максімчук пабег хутчэй у вёску і, пакуль рэшта мужчын вярнулася ў Трасцянку, у злосці падпаліў гумно замешаных у бойку Грыгарукоў. Калі разгарэўся пажар і сталася яснай яго прычына, некалькі мужчын уварваліся ў хату Максімчука, выцягнулі яго з-за стала, за ногі, зацягнулі на пажар і паўжывога на вачах амаль усяе вёскі ўкінулі ў агонь. Справу разглядаў потым дзяржаўны суд, які аднак апраўдаў вінаватых самасуду.

### ТРАСЦЯНІЦКІЯ БОЙКІ

Трасцяніцкія бойкі славіліся перад вайнаю на ўсю аколіцу. Біліся за дзяўчыну, за тое, што хтосьці кагосьці штурхнуў нехаця, ці проста от так дзеля святочнай прыгоды. Біліся індывідуальна і групова; з гэтых апошніх найбольш слаўнымі былі бойкі паміж адным і другім канцом вёскі.

Зараз слаўныя бойкі перайшлі ў гісторыю. Асталіся яны толькі ў памяці старэйшага пакалення жыхараў Трасцянкі. Старэйшае пакаленне сустракаецца з моладдзю на вясковых «забавах» у святліцы, на вуліцы. Глядзяць старэйшыя жыхары Трасцянкі, як моладзь без боек і авантур танцуе, гуляе ў шашкі, аглядае тэлевізар, дыскутуе аб палітыцы — і параўноўваюць: зусім не тыя часы, што калісьці, зусім не тая моладзь.

### ІЛЬНЯНЫЯ РАДАСЦІ

Трасцяніцкія жанчыны гадоў таму дваццаць цэлую восень з лоскатам церлі тоўстыя снапы ільну. — А потым да паўзімы трапалі яго і чысцілі. І церці лён, і трапаць яго вельмі цяжка. Таму магчыма, што трасцяніцкія жанчыны пацішу марылі аб нейкім такім цудзе, які за іх пацёр бы і патрапаў лён. А можа і не марылі, бо адкуль маглі ведаць, што такі цуд наогул магчымы?

Сталася гэта ў 1964 годзе. Існуючы ў Трасцянцы ад 1962 года сельскагаспадарчы гурток пастанавіў рацыянальна выкарыстаць будынкі, якія засталіся пасля зліквідаванай цагельні. У гэтыя будынкі члены сельскагаспадарчага гуртка ўвязлі машыны да пераробу ільняной саломы, і пачалася работа. Машыны самі труць, трэплюць і чысцяць валакно.

Трасцяніцкі пункт пераробу ільняной саломы цешыцца вялікім поспехам ў цэлай аколіцы. Прывозяць сюды лён сяляне аж з Ласінкі, Кленікаў і шэрагу іншых вёсак.

План кантрактацыі ў Трасцяніцкай ГРН, які прадбачваў 80 гектараў ільну, ужо зараз далёка перавыкананы.

### У ТРАСЦЯНЦЫ ЁСЦЬ І ДРЭННАЕ

Дрэнна ў Трасцянцы са школаю. Дзеці не маюць дзе вучыцца, настаўнікі не маюць дзе жыць. Цесната. А будзе яшчэ цясней, калі ўвядзецца VIII клас. Хаця трасцяніцкая школа зусім яшчэ новая, пабудаваная ў 1959 годзе. Пачнем аднак ад пачатку.

Яшчэ ў 1949 годзе прыехаў у Трасцянку старшыня Павятовай рады і заявіў, што Трасцянка можа мець новую школу з умовай, што мясцовыя сяляне пабудуюць у Трасцянцы цагельню. Першая прадукцыя гэтай цагельні мела пайсці на пабудову трасцяніцкай школы.

Да таго часу трасцяніцкая школа месцілася ў старым, падгніўшым будынку, і сяляне Трасцянкі ахвярна прыняліся да пабудовы цагельні. Калі аднак цагельня рушыла, павятовыя ўлады дайшлі да вываду, што ў павеце ёсць значна большыя патрэбы ў пабудове школ і ад будовы трасцяніцкай школы адмовіліся.

У выніку намаганняў мясцовага актыву школа ў Трасцянцы была аднак пабудавана. Прычыніўся да гэтага Грамадскі фонд пабудовы сталіцы (СФОС), які прыдзяліў на гэта пэўную, хаця параўнальна і невялікую, суму грошай. Такім чынам зараз у Трасцянцы ёсць новы школьны будынак з 4 класнымі пакоямі. Вучнёўскіх калектываў зараз у Трасцянцы 8: сем класаў пачатковай школы і адзін — сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. У недалёкай будучыні будзе іх (вучнёўскіх калектываў) 10. Няма ў школе аніводнага памяшкання для настаўнікаў, а працуе тут аж 8 настаўнікаў.

Праблемы трасцяніцкай школы развязаліся б, калі б перабудаваць адпаведна стары, пастаўлены яшчэ ў царскія часы, школьны будынак. Кошт такой перабудовы аднак параўнальна вялікі — каля 680 тысяч злотых. Трасцяніцкая школа зрабіла нават дакументацыю гэтай перабудовы, каштавала яна школу 25 тысяч злотых. Кіраўніцтва школы звярнулася ў 1965 годзе да камітэта СФОС-у з просьбай аб фінансавай дапамозе. Камітэт СФОС-у адказаў: «Пастанова ў справе прыдзелу сродкаў СФОС прынятай будзе супольна з кураторыяй пры разглядзе большай колькасці заяў у падобных справах».

Унізе дата: 12 сакавіка 1965 г. Ад гэтага часу справа разбудовы трасцяніцкай школы не пасунулася ні на крок наперад. А важнасць апрацаванай дакументацыі канчаецца ў 1967 годзе.

Апрацаваў **Ул. Паўлючук**

Здымкі аўтара



 

 

# ЦЫГАНЫ

Ідзе пра іх у нашым народзе не найлепшая слава. Цыганамі палохаюць дзеці, цыганкі — гэта быццам бы «зладзейкі», а калі хлусіш, дык значыць «цыганіш».

На Беласточчыне жыве каля сотні цыганскіх сем'яў. Разам звыш паўтысячы чалавек. 104 мужчыны, 105 жанчын і 304 дзяцей. Трымаюцца наогул групамі. З прыходам вясны сярод іх наглядаецца адвечная схільнасць да качавання. Згодна з агульнадзяржаўнымі накіраваннямі, улады Беластоцкага ваяводства намагаюцца пасяліць цыганскія сем'і на пастаяннае жыхарства. Качаванне па сутнасці лічыцца ў нас злачынствам супраць грамадскаму парадку. Усе дарослыя цыганы абавязаны мець пашпарты і пастаянную прапіску (мэльдунак).

Пасяліць цыганоў цяжка. Не, не таму што яны сабе гэтага не жадаюць. Многа цыганскіх сем'яў ахвотна замяніла б свае вандроўныя вазы на сучасныя выгодныя кватэры, калі б існавала для іх магчымасць адпаведнага заработку. Пад канец мінулага года на 104-ох дарослых здольных да працы мужчын пастаянна працавала ўсяго ледзь 46 асоб.
Сярод цыганоў распаўсюджана асабліва адно рамяство: цынаванне вялікіх алюмініевых катлоў. Працэс гэты вельмі складаны, і рэдка хто ведае яго тайну.

А што робяць цыганы, якія не ведаюць тайнаў гэтай цяжкай прафесіі?

Такіх многа больш. Яны або зусім не працуюць, або працуюць рассеяны ў 28-мі прадпрыемствах нашага ваяводства. Для прыкладу: Міхась Врублеўскі працуе ў гайнаўскай «хімічнай», зарабляе да 2 тысяч зл., а Данута Главацкая ў гайнаўскім тартаку зарабляе па 1500 зл. у месяц. Сем цыганскіх сем'яў пасялілася на гаспадарках. Аказаліся дбайнымі гаспадарамі.

Але не ўсюды добра. Цыганы, як правіла, не маюць ніякай адукацыі. Многа сярод іх не ўмее нават распісацца. Вандруючы па свеце, яны не думалі аб школе. Вучыла іх суровае жыццё, і толькі гэты універсітэт цыганы канчалі. І вось цыганы, якія нават хацелі б працаваць, стаяць перад горкай рэчаіснасцю: **без прафесіі няма працы.** А калі ёсць, дык найгоршая, найбольш чорная і найменш платная. Да таго неаднойчы далучаецца непрыхільнасць рабочага калектыва, з якім давядзецца працаваць цыгану. Часта адгараджвае яго мур абыякавасці і неапраўданай падазронасці. І гэта знеахвочвае. Напрыклад, у Сямяцічах круглы месяц працаваў адзін цыган у будаўніцтве, праца была акардовая, працаваў шчыра. Калі прыйшлося да выплаты, касір падсунуў яму ўсяго ледзь 148 злотых (сто сорак восем зл.). І што дзіўнага, што чалавек кінуў працу, што другія цыганы з Сямяціч заяўлялі адкрыта: нам выгадней ісці па вёсках варажыць і жабраць. Больш заробім. Аказалася, што днёўкі цыгана, які працаваў на будове ў Сямяцічах, запісвалі камусьці другому.
Трэба тады вучыць цыганоў — узрослых і дзяцей. На 127 дзяцей у школьным узросце пастаянна ў школу ходзіць 90. Цыганы жывуць пераважна вельмі бедна. У цыганскіх сем'ях многа малых дзяцей. Не хапае вопраткі і абутку. Аддзел асветы ВРН выдаў дагэтуль звыш 100 тысяч зл. на дапамогу цыганскай моладзі. Для цыганскіх дзяцей абяспечана месцы ў летніх лагерах школьнай дзетвары. Ёсць магчымасць вучыць старэйшых, асабліва моладзь зашкольнага ўзросту (16—18 год). Сярод іх многа непісьменных.
Цыганам улады многа дапамагаюць. Аднак шмат год яшчэ трэба чакаць. пакуль апошняя цыганская сям'я загаспадаруецца на адным месцы. Многа залежыць таксама і ад усіх нас.

**В. Рудчык**

## Да ведама вясковай моладзі

Каб даць магчымасць вясковай моладзі, якая не скончыла пачатковай школы, вучыцца ў СПР, Міністэрства асветы выдала загад у справе арганізацыі т. зв. выраўноўваючых курсаў для кандыдатаў у СПР.

Курсы такія будуць арганізаваны пры СПР у асноўным для моладзі 16—21 год, якая скончыла прынамсі 5 класаў пачатковай школы. Курс можна арганізаваць тады, калі запішацца 10 асоб. Аднак у выясняючым пісьме Міністэрства інфармуе, што ў выключных выпадках, калі да сарганізавання такога курсу не хапае адной або дзвюх асоб, можна прыняць старэйшую моладзь. Сюды могуць быць прыняты таксама ўдзельнікі ўсіх ступеней пазашкольнай сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР), калі адказваюць яны вышэй успамянутым умовам.

На курсе будзе абавязваць праграма сямікласнай пачатковай школы для працуючых з 5-ці прадметаў: польская мова, матэматыка, гісторыя Польшчы, грамадска-палітычныя пытанні і геаграфія Польшчы. Пасля рэалізацыі праграмы курсанты будуць здаваць так званы ўпрошчаны экзамен для экстэрнаў.

Час і тэрмін курсу ўстаноўлівае кіраўніцтва данай СПР. Аднак заканчэнне яго і экзамен не можа быць пазней як на два тыдні перад пачаткам заняткаў ў СПР. Аказія добрая, раім усім ахвотным паспяшацца з заявай да кіраўніцтва найбліжэйшай СПР. (ак)

## Школьныя спартыўныя спаборніцтвы

Нават у час вясенніх канікул вучні пачатковай школы ў Орлі не перарвалі спартыўнай трэніроўкі. Рыхтуюцца яны да вялікай урачыстасці. Незадоўга будуць гаспадарамі спаборніцтваў па баскетболу (ручны мяч) на першынство ў павеце. Спаборніцтвы будуць адбывацца ў рамах святкавання Тысячагоддзя Польскай дзяржавы.

З тым большай радасцю будуць яны прыймаць сваіх калегаў з павета, што ў мінулым годзе атрымалі новую спартыўную пляцоўку. На яе пабудову прызначана з «Тота-лётка» 43 тысячы злотых. Не абыйшлося і без грамадскага чыну. Бацькі выканалі прац на суму 5 тысяч злотых.



**Кадр з «Валодзінага гальштука» — Вера Максімюк і Лявон Харытанюк.**
Фота С. Грынявіцкі

## Геройства здарэнняў і... людзей

*(Працяг са стар. 1)*

Паўлы, як выдаецца, працуюць у сваім гуртку ў акрэсленым напрамку. Менавіта — рух супраціўлення ў апошнюю вайну. Гэта тэма цікавая, заўсёды актуальная. І гэта другая з прычын (пасля добрай ігры), якая здабывае Паўлам вялікую сімпатыю і многа браў.
Калі Паўлы свядома спецыялізуюцца ў пастаноўцы ваенна-партызанскіх расказаў, то я ўсім сэрцам з імі. Будзе гэта вялікае і карыснае «новум» у аматарскім беларускім руху ў Польшчы. Хачу дадаць, што паўлаўскія аматары надаюцца да драматычных, геройскіх, поўных галоснага (як у «Валодзіным гальштуку») патрыятызму роляў. *Вера Леўчук*

Арлянскія школьнікі-спартсмены плануюць заняць у спаборніцтвах адно з лепшых месц. А гэтыя мары не выдуманыя: Мясцовы школьны спартыўны гурток (СКС) бярэ ўдзел ва ўсіх арганізаваных асветнымі ўладамі спаборніцтвах і займае перадавыя месцы. У мінулым годзе па баскетболу занялі II-гое месца. Прывязлі школе і іншыя дыпломы ў спаборніцтвах: на кубак «Свята маладых», у лёгкаатлетыцы і гімнастыцы. Арлянскія спартсмены-школьнікі з'яўляюцца моцнымі канкурэнтамі гарадскіх школ, якія маюць многа лепшыя ўмовы, калі ідзе пра спецыялістаў-настаўнікаў, а таксама і матэрыяльныя. А ўсё гэта дзякуючы апекунам СКС настаўнікам: Тацяне Леўчук і мгр Аляксею Карпюку. (ак)

З БССР

## МАЯ ЗАГРАНІЦА

**(Працяг са стар. 2)**

фармальнай. Такім застаўся мне Мінск, дзе з асаблівай выразнасцю праявіўся гэты феномен, які ўразіў і зацікавіў мяне сваёй нейкай невытлумачальнасцю і таемнай сілаю. У ім адчуў я шмат аналогій да жыцця ў нашым Бельску, Гайнаўцы, Саколцы ці Беластоку.
Адпачываючы ў мінскай кватэры, агарнула мяне як бы настальгія. Выпаўз з цяснін маёй памяці вобраз прыбеластоцкай вёскі: хлопцы ў гарнітурах, засупоненыя моднымі краваткамі, і бацькі ў кажухах; задаволены сабою солтыс і яго нервовы сусед — былы танкіст, які тройчы гарэў у танку на подступах да Берліна. Якая гэта вёска, дзе яна і пры якой дарозе? Не помню, не магу прыпомніць — бачу толькі хаты, святлістыя сады, сонечныя нівы, смугу лесу; твары дзяцей, хлопцаў і дзяўчат, мужыкоў і кабет. Бачу могілкі на пагорку.
За сцяною кватэры хтосьці зайграў на фартэпіяна. Пакой затуманьвае вечаровая цемень, па шыбах крапаціць прадвесні снег. Смутна. За акном праламатаў трамвай, бліснула электрычная іскра. Слухаю ігры — і раптам падумаў аб Янку Брылю, і яго кніжыцы. «Жменя сонечных промняў» — так яна называецца. Чытаў я яе ў раскалываным аўтобусе ад Зэльвы да Гродна. Чытаў — і плакаў, і смяяўся хаваючы вочы, аж не вытрымаў і перастаў чытаць. Адлажыў яе на пасля, на беластоцкі спакой. У Мінску пыталіся пра маё ўражанне наконт твора Васіля Быкава — «Мёртвым не баліць». На шчасце, пытанні былі агульныя і я мог вылгацца; я забаяўся чытаць гэты твор, забаяўся за сваю журналісцкую працаздольнасць і нервы — адлажыў таксама на беластоцкі спакой. Маскоўскі часопіс «Новый мир», у якім надрукаваны ў перакладзе на рускую мову гэты твор Васіля Быкава, вандруе амаль з рук у рукі, як вершы Яўтушэнкі, ад якіх мой «беларускі феномен» выдаўся выдуманым, такім неістотным і малюткім-малюсенькім.
І не даючым мне спакою.

**Сакрат Яновіч**

## МЫ НЕ ЗАБУДЗЕМ

**(Працяг са стар. 1)**
**апошні раздзел тысячагадовай гісторыі нашага народа...»**
**Найлепш паклікаць «Грамадскія камітэты апекі». Ужо зараз дзейнічае на Беласточчыне каля 200 такіх «Камітэтаў». Не абавязкова адразу планаваць аграмадны помнік, на які спатрэбяцца дзесяткі тысяч злотых. Хопіць зрабіць нейкі скромны плоцік, палажыць буйнейшы палявы камень і прыбіць таблічку забяспечаную ад дажджу, каб людзі ведалі, што ў тым месцы здарылася. Можна пасадзіць нейкае дрэўца або корч дзікай ружы ці другую трывалую кветку. На гэта грошай не трэба. Нават школьнікі ў рамах практычных заняткаў змогуць справіцца з заданнем. Мы не можам забыць.**

**В. РУДЧЫК**

**нас іншымі, скажыце, адазвіцеся! Калі прызнаеце за намі права існавання, дайце нам умовы жыцця. Разбежымося мы, а чаго добрага, адно з чатырох колаў таксама адваліцца, што тады?**
**Паглядзіце, нас ужо і не так многа, ды і ніхто да нас не прыходзіць. Не прыходзіць, бо і «белавежцы» ўцякаюць Той па гэтай прычыне, іншы па другой. Гэтак па чарзе, няўжо ж і мне ўзяць ды ўзбунтавацца?.. Узбунтавацца, крычаць? Крычаць, што яшчэ ў лютым моладзь міхалоўскага ліцэя не бачыла на вочы «альманаха»? Што мне трэба было асабіста пісаць у міхалоўскі аддзел, каб дадумаліся зайсці ў ліцэй з кнігамі? Што пры гэткім распаўсюджванні нам не ўдасца прадаць кнігі тыражом нават у 500 экземпляраў? Што пры адпаведным падыходзе да гэтай справы ў міхалоўскім ліцэі можна было прадаць «альманах» дзесяткамі экземпляраў з увагі, хаця б, на тое, што ў ліцэі тым я працаваў цэлых пяць год, што моладзь там цудоўная, што яна цікавіцца гэтымі справамі?.. Хто тут вінаваты? Хто вінаваты і адказны за зборнікі? За адзіную ў месяц літстаронку? За літкансультанта? За ўцёкі «белавежцаў»? За абыякавыя адносіны да нас пішучых? За... Тут можна без канца і краю... Хто за ўсё гэта адкажа? Няўжо і на гэты раз ніхто??..**

**СЫМОН РАМАНЧУК**

# КУЛЬТУРНЫ АГЛЯД

**15 МАЯ**

Сярэдні дзень мая належыць дзеячу культуры. У гэты дзень ва ўсіх паветах адбудуцца ўрачыстасці, на якіх дзесяткі дзеячоў культуры атрымаюць адзначэнні і ўзнагароды. Будуць узнагароды ад міністра культуры, ваяводскія, павятовыя, ад прафсаюзаў і розных іншых арганізацый.

**ВЯЛІКІ ФЕСТЫВАЛЬ 1966 ГОДА**

Так трэба назваць культурны фестываль прафсаюзаў, прысвечаны Тысячагоддзю Польскай дзяржавы. У час яго адбудзецца агляд мастацкіх калектываў, спаборніцтва клубаў і святліц. Прафсаюзы Беластоцкага ваяводства маюць: 33 спявачыя калектывы, 41 інструментальны, 9 драматычных, 11 тэатраў паэзіі, 11 эстрадных, па некалькі танцавальных, фатаграфічных, 63 дзіцячыя.
З 215 святліц 124 знаходзіцца ў ПГР-ах значыць служаць яны вёсцы. Большасць іх у паўночных паветах ваяводства, дзе найбольш ПГР. 12 святліц працуе ў лясніцтве.

**ДЭКЛАМАТАРСКІ АГЛЯД...**

...закончыўся. У ваяводскіх аглядах найбольшы ўдзел прынялі вучні — 80 асоб. Многа дайшло з катэгорыі аматараў — 25 асоб.
На ўзнагароды было 10 тысяч злотых. На цэнтральныя агляды паедзе з Беласточчыны 8 асоб. На жаль, ніхто з вучняў нашых беларускіх ліцэяў. Ці ж бы памерла добрая традыцыя?

**КОЛЬКІ НА «ФАРАОНЕ»?**

Толькі ў адным кіно «Покуй» у Беластоку пабачыла фільм «Фараон» 40 тысяч асоб. «Папёлы» мелі больш — каля 50-ці тысяч.

**НА ВЕРШ ЛЁНІ**

Я ўсё кажу, што беларусы, людзі, якія з малаком маці ўвабралі пачуццё справядлівасці. Таму Лёня Леанюк, вучань з Плёсак, які прыслаў спецыяльны верш аб тым, што за пажары, смерць, жах, кроў людабойцам не прабачым, мяне ўцешыў. Беларусы заўсёды мелі і маюць грамадзянскае адчуванне палітычнай рацыі. Прыкра мне, што не магу апублікаваць верша (ён вельмі, як верш, слабы), але яго палітычная вымова добра сведчыць аб Лёні Леанюку. (вл)



**Помнік на адной з брацкіх магіл у Белавежы.**
Фота А. Казёл



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## КРУШЫНЯНСКІЯ САМАДЗЕЙНІКІ

Многа пішацца на тэму развіцця культурнага жыцця на вёсцы. Але не ўсюды яно можа паспяхова развівацца. Прычын тут многа. І недахоп святліц, або іншых аб'ектаў, дзе можа канцэнтравацца мастацкі рух. І вельмі часта недахоп людзей, якія маглі б з мастацкага боку дапамагчы ў аматарскім руху.

У вёсцы Крушыняны, што на Сакольшчыне, ад некалькі год памагае моладзі развіваць культурнае жыццё ў сваім асяроддзі настаўніца Люцына Крушэль. Пасля нялёгкіх заняткаў у школе прыступае яна да працы з моладдзю. Пры яе дапамозе крушынянскі аматарскі калектыў падрыхтаваў, між іншым, такія п'есы як: «Мікітаў лапаць» М. Кудзелькі і «Пярэстую Красулю» — А. Чужыніна. У гэтым годзе дапамогу моладзі стаў таксама аказваць настаўнік Кірыл Авечка. У лютым крушынянскія самадзейнікі выступалі з «Дзесяці гектарамі» А. Блізнюка і Ул. Цілюлькі, а таксама з «Ботамі» Крапіўніцкага. Кожнае выступленне было вялікай атракцыяй для нашых аднавяскоўцаў. З вялікім поспехам выступалі крушынянскія аматары і ў Крынках, у Коматаўцах і на павятовых аглядах у Астраўку.

Сярод самадзейнікаў на асаблівае прызнанне заслугоўваюць: Кастусь Макаль і Балеслаў Эйсмант. Гэтыя ўжо старэйшыя людзі маюць жонкі і дзеці, аднак, не шкадуючы часу, ахвярна працавалі ў драмгуртку, уздымаючы за кожным новым выступленнем мастацкі яго ўзровень.

**А. М.**
Крушыняны

Сардэчныя тайны
## ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Маю 18 год і жыву на вёсцы. Паўгода таму я пазнаёмілася з хлопцам, які працуе ў горадзе. Я штопраўда на гаспадарцы адзіная дачка, і не думаю ісці ў горад. Брат мой жыве ўжо ў горадзе даўно, ён інжынер, не мае намеру вяртацца на гаспадарку. У нядзелю пасля велікодных свят хлапец мой прыехаў у маю вёску. Ён тут мае бабку (маці яго бацькі). Мае таксама і калегаў. Пеця добра зарабляе, мае таксі. І вось калі ён прыехаў у нашу вёску, то прасядзеў некалькі гадзін у сваёй бабкі. Пасля поўдня ён праязджаў каля маёй хаты і нават не затрымаўся. Праўдападобна яму ўсяляк на мяне нагаварылі, а папраўдзе сама не ведаю чаму. Мы перапісваліся. Цяпер не ведаю, што рабіць. Праўду кажучы, мяне гэта не вельмі засмуціла, бо ён мне не так зноў вельмі падабаўся. Як цяпер мне паступіць? Ці адпісаць яму на яго апошняе пісьмо, якое прыслаў перад гэтым прыездам, ці не? Не хацела б паніжыцца перад ім. Падкажы Сэрцайка.

**ЛІДА**
з Беласточчыны

**Дарагая Ліда!** Сапраўды цяжка дадумацца, што сталася з Пецем, ці ён сам рашыў парваць ваша знаёмства, ці мо хто-небудзь нагаварыў на цябе. Але як відаць з лісту, табе не вельмі так на ім залежыць, а па-другое, як сама пішаш, яшчэ не думаеш выходзіць замуж. Таму вельмі добра, што ты не пераймаешся ўсім гэтым, бо і няма патрэбы. Але раю табе не пісаць першай да Пеці. Калі ён адумаецца, дык сам напіша і цябе перапросіць, мо выясніць прычыну яго паводзін. А калі інакш — дык і з гэтым мусіш згадзіцца. Зрэшты, відаць, ты і не пераналася гэтым, толькі хіба пацярпела трошкі твая дзявочая годнасць. А гэта добра, кожная дзяўчына павінна мець амбіцыю.

**СЭРЦАЙКА**

## У ЧАС СВЯТ

Гурток БГКТ у Сабятыне (Бельскі павет) даволі актыўна працуе ў сваім асяроддзі. У час велікодных свят арганізаваў ён безалкагольную танцавальную вечарыну. На гэтай вечарыне гурток даказаў, што можна вельмі весела і культурна гуляць без водкі. У час вечарыны мясцовы драмгурток паказаў дзве беларускія п'есы: «Як Васіль ехаў у Першамайск» і «Шпачок». Сярод моладзі знайшліся дэкламатары, якія выступілі з вершамі і маналогамі.

**Янка Семянюк**

## УЖО ХУТКА

Восенню 1965 года пачалася ў Чыжах будова пункта аховы здароўя. Дзякуючы добрай арганізацыі працы за зіму быў пастаўлены зруб будынка. Шмат выканалі працы грамадскім чынам члены чыжоўскай пажарнай каманды. Ужо хутка пункт аховы здароўя будзе перанесены з прыватнай драўлянай хаты ў спецыяльна пабудаваны мураваны будынак.

**Янка Грамадскі**
Чыжы

## ГАСПАДАРСКАЕ ВОКА Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

(Працяг са стар. 2)

**да пышнай адзёжы празмеру — не ў пяць, не ў дзесяць! Асабліва датычыць гэта беларусых дзяўчат і жанчын: выглядаюць густоўна, малююцца так, каб «пасавала» ім да твару — каб маляванне не засланяла іх натуральнага хараства, а наадварот — падкрэслівала іх жаночасць. Хлопцы ўсур'ёз трактуюць сваю працу, канкрэтна думаюць аб будучыні, шмат вучацца. Аб хуліганстве тут не чуваць.**

**Заможная нямецкая вёска — амаль у кожнай хаце тэлевізар і іншая хатняя тэхніка (сціральныя машыны і т. п.).**

**(С. Я.)**

## БЕЗ СВЯТЛІЦЫ

Вёска Навасады ляжыць на ўскраіне Белавежскай пушчы, паміж чыгункай а шашой, якая спалучае Беласток з Гайнаўкай. Будучы яшчэ малым хлопцам я палюбіў сваю вёску і пушчу. Ведаю адно, што не шкадую таго, што тут я нарадзіўся. Люблю яе за прыгожыя аколіцы.

У 1962 годзе вясною ў маёй вёсцы закончана будову святліцы. Аб ёй кожны марыў, кожны хацеў, каб як найхутчэй вольныя хвіліны правесці ў ёй. Пасля нейкага часу ў святліцы было ўжо пастаяннае кіно «Чын». Фільмы высвятляліся ў суботу і нядзелю. Каля святліцы збіралася маса народу. Кожны меў разрыўку і быў з яе задаволены.

Аднак не надоўга гэтым дасягненнем жыхары Навасад маглі любавацца. Святліца пачалаваліцца, бо была дрэнна пабудавана. Вясковыя актывісты ад святліцы адхіліліся, улады, якія кіравалі будовай, не зацікавіліся ёю, і так усё засталося аж па сённяшні дзень. Людзі, якія кіравалі святліцай, выехалі шукаць новага жыцця, сказаўшы ціха — «Не хочам паднімаць кароны з балота».

А як зараз выглядае жыццё ў Навасадах? Маладыя людзі далей не маюць «свае хаты», не маюць куды кінуцца ў вольныя хвіліны. Многа з іх навучылася курыць папяросы або цягнуць «польскую звыклую». У вольныя хвіліны на вуліцы можна ўбачыць, як адзін з другім лазяць без работы.

**«Р. Р.»**
Гайнаўскі павет



## БУДУЮЦЦА ХОДНІКІ

Жыхары вёскі Волька на Бельшчыне ў гонар 1000-годдзя Польскай дзяржавы забавязаліся давесці сваю вёску да эстэтычнага выгляду. Грамадскім чынам робяць ходнікі і гародзяць аднолітым плотам вуліцу. 13 красавіка пры выкананні прынятага абавязацельства працавала 17 гаспадароў, якія прывезлі 108 вазоў пяску пад ходнікі.

Тэкст і фота
**З. П.**
Бельскі павет

## ПЕРАПІСКА

У снежні 1965 года прачытаў я ў «Ніве» апублікаванае пісьмо савецкага грамадзяніна Барыса Гітмана. Ён у час вайны змагаўся за наш павятовы горад Бельск. Там ён быў ранены, там ён праліў сваю кроў за яго вызваленне ад гітлераўскіх захопнікаў.

Я вяду перапіску з Барысам Гітманам. Атрымаў ужо ад яго пяць пісем. З іх я даведаўся, што здабываў ён таксама Берлін, што ўзнагароджаны «Ордэнамі Славы» 2-ой і 3-ай ступені, медалямі «За абарону Масквы», «За вызваленне Варшавы» і «За ўзяцце Берліна». Кожны ліст гэтага чалавека вельмі павучальны, і яго парады напэўна прыдадуцца мне ў жыцці.

**Лёня Леанюк**
Плёскі

## ШТО ГЭТА

Развязка адгаданкі з 8 старонкі: Насарог у пачцы (найлепшы падарунак для таўстаскурых людзей).

# КІНО

**Праграма на 10—15. V. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Król strzelców" (czeski), 10—11. „Dwadzieścia godzin" (radziecki), 12—13. „Ranny w lesie" (polski), 14—15.

**Кляшчэлі**
„Przygody Tolka Borówki" (radz.), 10—11. „Ktoś obok ciebie" (NRD), 12—13. „Koniec naszego świata" (polski), 14—15.

**Дубіны**
„Okres próbny" (radz.), „Obca krew" (radz.), 14—15.

**Нарва**
„Człowiek z fotografii" (jugosłowiański), „Drewniany różaniec" (polski), 11—15.

**Нараўка**
„Nieznajomi z pociągu" (USA), „Niewidomy muzyk" (radz.), 11—15.

**Чыжы**
„Późne popołudnie" (polski), „Człowiek I-go stulecia" (czeski), 11—15.

**Дубічы Царкоўныя**
„Wyższa zasada" (czeski), „Lekkoduchy i dziewczyna" (radziecki), 11—15.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Ballada o dziewczynie" (wietnamski), „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" (angl.), 11—15.

**Орля**
„Casanowa znad Dunaju" (węgierski), „Nowy Gilgamesz" (węgierski), 11—15.

**Райск**
„Daleka jest droga" (polski), „Skarb" (polski). 11—15.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Miłość jednej nocy" (radz.), „Troje i las" (polski), 11—15.

**Міхалова**
„Podróż nie z tej ziemi" 10—11. „Dworek 4 dziewcząt" (węgierski), 12—13. „Przybycie tytanów" (USA), 14—15.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Wiatr ucichł przed świtem" (jugosł.). 10—11. „Mandacik proszę" (włoski), 12—13. „Samson" (polski), 14—15.

**Мілейчыцы**
„Tow. Regend" (czeski), 10—11. „Najdroższa" (radz.), 12—13. „Zdarzyło się w Rzymie" (włoski), 14—15.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Przyroda i my" (radz.), 10—11. „Mandacik proszę" (włoski), 12—13. „Obok prawdy" (polski), 14—15.

**Шудзялава**
„Ostrożnie babciu" (radz.), „Bracia" (czeski), 11—15.

**Сідра**
„Spotkanie na przeprawie" (radz.), 10—11. „Tak" (węgierski), 12—13. „Zdradzona ziemia" (radz.), 14—15.

---

**трыццаці ствалоў не цяжка. Але з бункера ўбачаць мітусню, стрымаюць кур'ерскі...**

**Узабраўшыся на насып, салдат рыхтуе веласіпед, агірачвае яго, пад'язджае. Пад расшпіленым мундзірам — вайсковы світэр. Па жвіру ехаць цяжка, лепш бы прайсціся з веласіпедам у руках. Я разумею салдата. Яго ахапіў спартыўны азарт пераадолення перашкоды, дастае з сябе ўсе дыхі, абы толькі паставіць на сваім. З грудной кішэні вымаю аловак, блакнот, гляджу на жалезны слуп з таблічкай, пачынаю перапісваць лічбы і літары. Косця адразу арыентуецца, дыктуе. Робіцца горача.**

**Ужо чуваць натужлівае скрыпенне ланцуга. Мы нібы здзіўлена ўзнімаем на салдата вочы. Вышыня насыпу тут раўняецца вышыні тэлеграфнага слупа, броўка вузенькая, ідзе пад гару, усю ўвагу веласіпедыст кіруе на тое, каб не зляцець пад адхон, азірнуцца не можа. Салдат адчувае, што мы глядзім, і ўсміхаецца нам, просіць прызнання свайму высілку. Малады, рыжаваценькі, з плямамі густога залацістага рабаціння на шчацэ і шыі, з ражкамі потных валасоў.**

**— Гайль! — кідае.**

**— Гайль! — адказваю.**

**— О-о, майн гот! — віхляе рулём.**

**З усяе сілы ловіць раўнавагу, марудна, паволі праязджае ля нас. Праводжу веласіпедыста вачыма, з палёгкай уздыхаю, узнімаю руку, каб выцерці пот. І толькі цяпер за салдатам на павароце, дзе бункер, бачу дымок.**

**— Давай! — шапчу.**

**Косця засланяе сабой мяне ад салдата. я да рэйкі прыкладваю міну. З кішэні дастаю ўзрывацель, які вымаліў у Філімончыка, упіхваю ў тол, ва ўзрывацель устаўляю дубец. Цяпер паравозу дастаткова крануць гэты дубец — і міна ўзарвецца. Пакунак прыкрываю гнілым лісцем, травой, азіраюся. Уся маніпуляцыя заняла ў мяне паўмінуты. Салдат ад'ехаў крокаў сорак. Немец аж прыўстае на сядле, рытмічна і натужліва перавальваецца корпусам то на бок, то на другі, пнецца пад гару, пакідае на жвіры глыбокую васьмёрку. За ім на прамы пуць выцягвае вагоны паравоз.**

**— Гатова! Ходу!**

**З пуці спаўзаем памалу, а хочацца выскачыць са скуры і несціся на крылях. Апынаемся на балоце.**

**—Э-э-эгі-і-і! — дае машыніст не то нам, не то веласіпедысту бадзёры, пранрэзлівы сігнал.**

**Свішчы, свішчы!..**

**Зыркаю назад. З гары імчыць і расце на вачах паравоз і ўвесь блішчыць на сонцы чорным лакам. Поезд ідзе з хуткасцю васьмідзесяці кіламетраў у гадзіну.**

**— Не лаві варон! — злуе Косця.**

**Бягу за ім у поле. Ад таго, як далёка аддалюся, залежыць маё жыццё, ног не шкадую. Азартная прага бачыць усё сваімі вачыма мацнее. Чую зусім блізкі грукат, спыняюся і гляджу ва ўсе вочы.**

**Да пуці — крокаў сто. Паравоз міну пралятае. Вялізны куст агню і дыму раптам вырастае паміж ім і тэндэрам. Паравоз адрываецца і, як апантаны, нясецца ў бок Валіл адзін. Чорны тэндэр перакульваецца папярок рэек, выстаўляе светлы жывот і чырвоныя колы. Агромністая сіла інерцыі ўвесь вугаль з тэндэра сыпанула пругкім веерам уздагон паравозу. Два першыя шэра-зялёныя пульманы лёгка, нібы цацкі, ускокваюць на тэндэр. Яшчэ два са звонам пустых металёвых скрынак кладуцца папярок пуці. Астатнія з грукатам коцяцца пад адхон.**

**Ух-ух-ух-ух! — натужліва стогнуць, быццам жывыя і ім вельмі цяжка.**

**Хадуном ходзіць зямля. Выбух падняў высока ў паветра нейкія шматтонныя жалязякі, перакульвае іх там некалькі разоў і гупае ў балота, абдае мяне пырскамі гразі. Тэлефонныя драты, сарваныя са слупоў, ляцяць са звонам і ціўканнем, сцябаюць мяне па халявах. Відовішча жудаснае, захапляючае!**

**Прытомнею і бачу, што мы з Косцем з дзікай радасцю скачам, крычым, махаем рукамі. З хвойніку высыпаюць нашы партызаны і таксама выконваюць «танец Тамерлана»: Люба з Нікіцінай абнімаюцца, вішчаць, хлопцы скачуць, падкідаюць шапкі, махаюць зброяй.**

**— У кусты-ы! — першы апамятаўся Косця.**

**— Бягом у лес! — спахопліваюся і я, кідаюся ў бок Ліпнікаў.**

**Мы ў нізіне, за кустамі, з бункераў не відаць.**

**Дападаем да старога лесу, азіраемся. Пуць ляжыць перад намі ў даліне, грэбенем выстае над хвойнікам. Зводдаль стаіць паравоз, пштахае парай, дае трывожныя сігналы: тры кароткія, адзін доўгі, тры кароткія, адзін доўгі... Ля разбітых вагонаў на чыгунцы ўжо мітусіцца некалькі соцень узбуджаных фігурак у мышастых мундзірах.**

**Наводжу бінокль. Там кіпіць, нібы ў разварушаным мурашніку. Салдаты і афіцэры бегаюць, махаюць рукамі, штурхаюць, дапамагаюць адны другім узабрацца на пуць, узвалакаюць целы, кладуць на шпалы.**

**— Камандзір! — моліцца Кардаш. — Давай секанём па іх адгэтуль!**

**Адкрыем страляніну і выдадзім сябе, немцы адразу пастараюцца блакіраваць нас у Ліпніку. Мы-то вырвемся, а бацькоў адрэжуць, калі яшчэ тут!..**

**Але занадта вялікая спакуса. Што да пуці адгэтуль чатырыста метраў, ведаю змалку.**

**— Прыцэл восем!**

**Мы яшчэ не канчаем страляць, а на пуці ўжо пуста.**

**...Пасля полудня прызямліліся транспартныя юнкерсы, сталі забіраць раненых і мёртвых і вывозіць у Беласток. Гэтая вестка дайшла да нас па дарозе на новае месца дыслакацыі.**

ПРАЦЯГ БУДЗЕ

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024.
Nakład 5458 Bltk D-3

# Пазнаёміліся...

Іван Будзіцкі, начальнік аддзела культуры, ажно ўспацеў. Вунь колькі папер на подпіс! Тут і справаздачы, і суровыя напамінкі, і чэкі... «Да чаго неарганізаваная жанчына, — думаў ён пра свайго справавода. — Быццам нельга кожны дзень пакрысе падносіць. А то, бачыш, выгрузіла адразу можа за цэлы тыдзень».

— Дазвольце? — у дзверы боязна ўсунулася маладая жанчына ў выцвілым пыльніку.

— Няма чаго дазволу пытаць, калі ўжо абедзвюма нагамі ў кабінеце, — падняў на яе вочы Будзіцкі.

— Са скаргаю да вас, пане Будзіцкі. За нішто з работы звольнілі...

— З якое работы?

— Ну, я ж загадвала ў вёсцы бібліятэкай. На твар Будзіцкага набег цень. Заўжды так: колькі ні ўшчувай — усё роўна гультайнічаюць, а потым праўду шукаюць.

— За нішто, кажаш, звольнілі?

— За нішто, пане Будзіцкі, за нішто...

— За нішто, — са скрухай ківаў галавою Будзіцкі. — Нічога не рабіла, то і знялі.

— Як гэта нічога не рабіла?! Выходзіць, за нішто і ганаровую грамату далі?

— Ганаровую грамату? — здзівіўся Будзіцкі.

— Які дурань мог гэта зрабіць?

— Дарэмна вы так,— пакрыўдзілася бібліятэкарка. — Зусім і не дурань.

— Пры сваім розуме чалавек не стане гультая заахвочваць. З сабою грамата?

— З сабою, пане Будзіцкі. Вось...

Будзіцкі разгарнуў грамату і вочы яго сталі шырокія - шырокія: на паперы стаяў ягоны подпіс.

Іван Будзіцкі яшчэ раз зазірнуў у грамату, выцер хусцінкаю ўзмакрэлую лысіну і памякчэлым голасам сказаў:

— А чаго вы, пані Алена, стаіце? Прысаджвайцеся. Зараз ва ўсім разбярэмся...

**І. АНОШКІН**




*Без слоў.*

**ПАВЕРЫЛІ**

Лісе даручылі апекаваць курыную ферму. Першаю ахвярай стаў певень. Праз дзень — курка раба. Затым — хто трапляў на зуб.

На лісу падалі скаргу льву.

Воўк, памочнік льва, накіраваў заяву на рэагаванне зайцу.

Заяц сустрэўся з лісой.

Вярнуўшыся, далажыў:

— Курынае пагалоўе звольнена з фермы па ўласнаму жаданню...

**Мікола Сергіевіч**

**ІСТОТНАЕ ПЫТАННЕ**

Коля гуляе з мамай. Убачыў сабаку і захацеў пагуляць з ім.

— Не падыходзь да яго, гэта злосны сабака, — сказала мама.

— А хто яго раззлаваў? — спытаў Коля.

**БАЧЫЎ ТЫГРА**

Аднойчы сустрэліся два сябры.

— Ты ведаеш, — гаварыў першы, — я бачыў у нашым лесе пяць тыграў.

— Не можа быць, — не паверыў другі. — Іх у нас няма.

— А што ж тады там трашчэла? — пачырванеў першы.

**ШКАДУЕ**

— Ты шкадуеш мяне? — пытае бабуля ва ўнучкі.

— Шкадую, калі ты мне цукеркі купляеш, — адказала тая.

**НЕ ВІНАВАТЫ**

— Вы прызнаеце сябе віноўным? — спытаў у падсудната суддзя.

— Хоць я і вінаваты, але віноўным сябе не прызнаю.

СТАРЫ КАПЯЛЮШ

— Рыгор, чаму гэта ты заўсёды такі стары капялюш носіш?

— Бо мая жонка паклялася, што не пойдзе са мною нікуды, пакуль я сабе новага капелюша не куплю, а мне гэтага і трэба — куды хачу, туды і хаджу сам...




Калі цябе ўсе хваляць, ведай, што знаходзішся ты на сваіх уласных хаўтурах.

**СПЕВАКІ**

На лаўцы сядзелі тры дзяўчынкі і гутарылі:

— А мой татка спявае ў хоры па нотах... Якую хочаш песню заспявае, абы была напісана, — сказала першая дзяўчынка.

— О, пахвалілася! Мой татка спявае ўсё без нот — па памяці, — сказала другая.

— А мой татка ўсё без памяці спявае, — сказала трэцяя.

ПАГОНЯ

— Хутчэй! — крычаў хлопчык, падбягаючы да суседняй фермы. — За маім бацькам ганіцца шалёны бык! Дапамажыце!

— Чым табе дапамагчы? — усхвалявана спытаў фермер.

— Хутчэй, дапамажыце мне ўставіць плёнку у фотаапарат! — адказаў хлопчык. — Я сам не ўмею.

— Саромся, сынок! Жонка гола ходзіць, а ты грошы на кніжкі выкідаеш.

— Ну, хлапец, ідзі, пагуляй!
— А-а... Хітры які, я не першы ўбачыў!

*СЛОН І МУХА*

*— Мне кажуць, я падобна на*
*Слана, —*
*Мядзведзю Муха гаварыла.*
*А ён абурыўся: — Мана!*
*То з мухі ты сама*
*Слана зрабіла.*

*Віктар Рэчыц*

ВЯЛІКАЕ КАХАННЕ

Я кахаю вас больш за жыццё і хачу, каб аб гэтым ведаў увесь свет... за выключэннем маёй жонкі.

*Усё людское нам не чужое.*



**ШТО ГЭТА?**

Падумай, а калі фан зія падвядзе цябе, тады зкарыстай з развязкі, кую знойдзеш унутры нума а.



**ПРАТЭСТ**

— Не пайду я больш у школу! — заявіў хлопчык бацькам пасля першага ж дня вучобы. — Ні чытаць, ні пісаць я не ўмею, а размаўляць мне не дазваляюць...

**НЕ МОЖА**

Навокал смяецца публіка, толькі адзін сядзіць з важным выглядам, і смех яго не бярэ.

— Вам не падабаецца выступленне клоўна?

— Падабаецца. Але не магу ж я смяяцца, калі ззаду сядзіць мае падначаленыя.

**КУР'ЁЗЫ**

## Дарагі ўспамін

**У газеце «Таймс», якая выходзіць у Лос-Анжэлесе, з'явілася такая аб'ява: «Згублены партфель, у якім знаходзіліся дакументы, фатаграфіі і 850 долараў. Прашу знаходцу аставіць сабе дакументы і фатаграфіі, а звярнуць грошы, якія з'яўляюцца для мяне дарагім успамінам».**

# ВЯТРАК

*Словы В. ШВЕД*

*Музыка Э. ГОЙЛІК*

*За вёскай у полі на ўзгорку,*
*Дзе ўецца гасцінец — бальшак,*
*Ад долі задумаўся горкай*
*Стары спарахнелы вятрак.*

*Найбольш адзінокі на свеце,*
*Аджыў, як відаць, я свой век,*
*З мяне насміхаецца вецер,*
*Пакінуў мяне чалавек.*

*Не рвуцца ў палёт мае крылы,*
*Шчаслівых не ўбачыць ім дзён,*
*Не хопіць напэўна ім сілы,*
*Каб з месца кранунь мой жарон.*